ISSN 5172

*ВАЮЙ, НАРОДЗЕ, ЗА СВАЕ ПРАВЫ! — К. Каліноўскі*

ЗА ВОЛЮ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ!



# ЗВАЖАЙ

Часапіс Беларускіх Вэтэранаў. Выдае Камітэт Сувязі Быўшых Беларускіх Вайскоўцаў

**ZVAZAJ – Veterans quarterly, published by Liaison Committee of Byelorussian War Veterans.** ***Canada Post. 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont., M4K 1C2***

***U. S. Post: Assn of Byelorussian-American Veterans, 9 River Rd., Highland Park, N. J. 08904***

Год 13 | Чырвень, 1987 | Нр. 2 (46)

## ЮНАК ПРАБІЎ НАДЗЬМУТЫ МАСКОЎСКІ ПУЗЫР

Апавядаюць, што калі Вінстан Чэрчыль даведаўся пра упадак Хрушчова, ён усклікнуў: "Я думаў, што памру ад старасьці, але, здаецца, што памру ад сьмеху". Будучы малодшым за Чэрчыля, я колькі дзён таму назад выразіў аналягічную асьцярожнасьць. Здарылася гэта пасьля таго, як сьвет даведаўся пра дзевятнаццацігадовага аматара-пілёта Маціяса Руста.

Але — каму сьмех, а каму сьлёзы! Як ведама, самалёт Руста ляцеў на вельмі малой вышыні, затое-ж з куды большай вышыні **паляцелі** маскоўскія "шышкі". Знамянітая савецкая прыказка пра тое, што, маўляў, межы СССР "на моцным замку" набыла адмысловую іранічнасьць, паколькі Руст умудрыўся "расьпячатаць" мяжу не калі-небудзь, а дакладна ў "Дзень пагранічніка". Так і хочацца спытацца, куды-ж глядзелі ўсе гэныя сторажы, ракетнікі й наагул "сталінскія сокалы"? Радар ня мог злавіць самалёт Руста, але можна-ж было ўбачыць яго і няўзброеным вокам! (калі, ясна, не двоілася ў вачох з нагоды сьвята пагранічнікаў). Так, не павязло савецкім "сокалам"! Вось і давялося на ўцеху ахвяраваць маршала **Сакалова!**

Ува ўсей гэтай гісторыі вадэвільна-апэрэтны пачатак зьмешаны з надта сур'ёзнымі рэчамі. Насамперш пад абух трапіла нястрыманая хвальба камуністычнай прапаганды. Выяўляецца, што "недаступная" і "ўсемагутная" сыстэма паветранага прыкрыцьця СССР можа быць і **»дастуцпнай»** для нападу й **»бясьсільнай»**. Гэта вам ня тое, што зьбіць карэйскі цывільны самалёт і замардаваць ягоных усіх пасажыраў над міжнароднымі водамі! Заходнянямецкі юнак, пакружыўшы над Крамлём і Маўзалеем, адначасна пакпіў і з надзьмуханага аўтарытэту савецкай ваеннай машыны. І зь якой элегантнасьцяй выканаў свой палёт Маціяс Руст! На малой вышыні ад зямлі, **але** — дазволю сабе **сказаць!** — на **высокім** узроўні пілятажу. І яшчэ пілёт-аматар! Ды ў **параўнаньні зь ім слаўнае падарожжа Рудальфа Гэса** ў Англію выглядае дылетанцкай спробай.

Астаецца выразіць надзею, што ў цяперашніх савецкіх лідараў хопіць розуму (а можа й пачуцьця гумару), каб не намагацца з Маціяса Руста зрабіць такога-ж "доўгажыхара" вязьнічнага, як із Рудальфа Гэса. Дый наапошку, Руст вельмі **голасна** паказаў апосталам "галоснасьці" што не выпадае навет марыць пра "мировое господство", лічыць сябе **першымі** ў сьвеце. Няма такіх **»першых»**!

Дый наагул, лекцыя гэтай гісторыі такая, як тая мараль у казцы Пушкіна пра Цара Дадона: "Пануй, лежачы на баку". А калі хто й пакружыўся пралётам над Краснай Плошчай, прымеце гэта ў якасьці намёку на тое, што "на всякого мудреца довольно простоты".

*А. Гідоні*



*На ўсім сьвеце быў рогат, бо масквічом і ня сьнілася, што на Краснай Плошчы, каля храму сьв. Васіля Блажэннага прызямліцца "камар", які пад савецкія "сьвяшчэнныя граніцы" ня толькі свой "нос падтачыў", але і ўсіх бальшавіцкіх "сокалау" перахітрыў.*

Здымка Н. Ігнацьева, рэпрадукцыя з "Тайм".

# ВАРВАРСКІ РЭЖЫМ

Загаловак наш узяты зь менскай газэты "Літаратура і Мастацтва", за 1.5.1987 г., дзе Кастусь Тарасаў піша пра "Спадчыну". Бачыце, "маладзёжная" газэта "Чырвоная зьмена" ад мінулага лета пачала друкаваць "тэматычную старонку" п. наз. "Спадчына". Ужо выйшла іх 12. Яны, паводля Тарасава, "маюць даць юнацкай аўдыторыі сістэмную інфармацыю пра нашу старажытнасьць, пасьлядоўна выхоўваць у моладзі аб'ектыўнае успрыманьне культурных здабыткаў народу, наагул **гістарычную сьвядомасьць** (падчыркнута мной — К. А.).

А старэйшы беларускі пісьменьнік М. Лужанін, адабраючы такі пачын, заклікае беларускую моладзь **»пільней углядацца ў нетры часу... Таму мы і зьвяртаемся да расшукваньня спадчыны. Гэта пашырае веданьне гісторыі...»**

Вядома, каб адшукаць тую спадчыну перадусім у помніках - сьвятынях, іншых будовах, трэба разглянуцца навокал, каб убачыць што й дзе засталося, чаго яшчэ **варварскі рэжым** ня ўсьпеў зьнішчыць, што дагледжана й дапільнавана, а што й цяпер гніе-трухлее, распадаецца ды наўмысна **варварскім рэжымам** нішчыцца. І тут відаць ня "трывожнае", як аўтар выражаецца, палажэньне, але куды горш. Дамо слова аўтару:

"Чаго бракуе "Спадчыне"? Галоўным чынам праблемных матар'ялаў. Па сутнасьці, за праблемны можна лічыць толькі артыкул кандыдата архітэктуры Т. Габрусь "У чаканьні Рэнесанса", які апавядае пра сучасны стан помнікаў архітэктуры. Стан гэты інакш, чым трывожны, не назавеш. "Дзясяткі помнікаў дойлідства XVI-XIX стагодзьдзяў, — піша Т. Габрусь, *— выкарыстоўваюцца пад склады, агародніна сховішчы рамонтна-мэханічныя майстэрні сельскагаспадарчай тэхнікі.* Напрыклад: царква-крэпасьць у в. Мураванка Шчучынскага раёну (XV-XVI стст.), касьцёл Дамініканаў у Наваградку (XVII ст.), Францысканаў у Івянцы (XVIII ст.), Смалянах Аршанскага раёну (XVIII ст.) і шмат іншых. **Варварскі рэжым эксплюатацыі вядзе да інтэнсіўнага разбурэньня гэтых помнікаў, а пасьля ставіцца пытаньне аб іх аварыйным становішчы, »неэстэтычным» выглядзе й неабходнасьці ў сувязі з гэтым разабраць іх ці зьнесьці».** Сімвалам такой абыякавасьці стаў помнік дойлідства **сусьветнага значэньня** — абарончая царква ў в. Сынкавічы Зэльвенскага раёну, якая "працягвае разбурацца: **выпадае цэгла, гніюць драўляныя канструкцыі. Ня больш чым праз 100 мэтраў ад помніка выкапаны траншэі для ўгнаеньняў,** што стварае замест ахоўнай зоны вакол помніка агрэсіўнае асяродзьдзе для будаўнічых матар'ялаў".

"Спадчына" праз артыкул "У чаканьні Рэнесансу" закранула вельмі актуальнае пытаньне. Зразумела, правесьці рэстаўрацыю некалькіх тысяч помнікаў у бліжэйшы час — справа немагчымая. *Але-ж амаль ня робіцца захадаў па кансэрвацыі аб'ектаў, ня створаны навет мінімальны догляд за імі.* **Не атрымалі пакуль што арганізацыйнай формы прапановы значнай часткі моладзі скарыстаць для выратавальных работ іх сілы.** Набыты вопыт станоўчага ўзьдзеяньня на культурную і маральную атмасфэру адроджаных помнікаў мінуўшчыны вымушае не пагаджацца на новыя страты нашай культурнай спадчыны, якія найчасьцей маюць месца з-за гістарычнай і эстэтычнай няпісьменнасьці мясцовых адказных работнікаў."

Стан з помнікамі-сьвятынямі (ды ці толькі зь імі!), як відаць, ня трывожны, а катастрафальны. Ясна чаму, пры ўладзе сядзіць *чужы акупацыйны* **варварскі рэжым.** І адкуль мела ўзяцца тая *гістарычная ці эстэтычная пісьменнасьць мясцовых адказных работнікаў,* калі чужы рабаўласьнік, **варварскі акупацыйны рэжым** усе натуральныя й прыродныя рэсурсы нашага народу ды й іншых паняволеных народаў выкарыстоўваў на стварэньне ваеннай магутнасьці, каб захапіць рэшту сьвету? Мясцовыя работнікі, ці партыйныя цівуны, помнікі а разам зь імі й душу народу вынішчалі і прадаўжаюць ліквідаваць **згодна плянавае палітыкі варварскага акупацыйнага рэжыму.** Вельмі паказальна, што навет прапанаваныя беларускай моладзяй паслугі, каб выратаваць сьвятыні-помнікі, што знаходзяцца ў катастрафальным стане, **варварскі рэжым** адкідае.

Нельга забывацца, што гэта той самы варварскі рэжым, які ўжо сёмы год мадэрнымі мілітарнымі сродкамі вынішчае народ Афганістану, тэрарыстычнай вайной намагаецца забраць Паўдзённую Афрыку, Нікарагу, прынёс голад у Этыёпію, Мазамбік, ды намагаецца арганізаваць апошні паход, каб захапіць рэшту вольных і дэмакратычных дзяржаваў сьвету.

Трывога нашых культурна-асьветных патрыётаў аб помніках народнай "спадчыны" зусім зразумелая. У апошнім нумары нашага часапісу мы пісалі пра Багушэвічаў зруйнаваны дом у Кушлянах, але зьнішчэньне культурных помнікаў, як цяпер відаць, ёсьць масавае. Паняволены народ павінен натужыць усе свае сілы, каб варварскаму чужому акупацыйнаму рэжыму не ўдалося зьнішчыць беларускія нацыянальна-культурныя й гістарычныя цэннасьці!

*К. Акула*




*Наш рэдактар "Зважай" таксама кагадзе выступаў супраць Чырвонай арміі... 23-га лютага сёлета, у Тароньце пры Мэсы Гол бачым ямо між дэманстрантаў з плякатам "За свабоду Беларусі" падчас канцэрту ведамага ансамблю Чырвонай арміі.*

# ДА СТАГОДЗЬДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭНЬНЯ АЛЕСЯ ГАРУНА

Пра Алеся Гаруна й пра ацэнку, якую далі ягонай творчасьці М. Багдановіч, М. Гарэцкі, Я. Лёсік, А. Луцкевіч і Кароткая Энцыкляпэдыя "Беларуская ССР", мы ўжо пісалі з нагоды 65-х угодкаў ягонае сьмерці, якія прыпалі на 20.7.1985 г. (Гл. "Зважай" нр. 3(39), 1985). Гэтым разам, і каб адзначыць соты год ад нараджэньня гэтага выдатнага паэта, пазнаёмім нашых чытачоў з матар'яламі пра яго, надрукаванымі ў 3-м нумары часапісу "Вольны Сьцяг", што выдаваўся Камісарыятам Народнай Асьветы Беларусі (пазьней — Наркамат Асьветы БССР) ад верасьня 1920 г. да студзеня 1922 г.

Маем на ўвазе артыкул Зьмітрака Бядулі п. наз. "Алесь Гарун (Аляксандар Прушынскі)", два вершы, прысьвечаныя памяці А. Гаруна: "Жывыя акорды" Міхася Чарота й "Ахвярую Алесю Гаруну" Сергі (псэўданім) і тры творы самога Алеся Гаруна: "Бажаньне", "Песьня капачоў" і "Відзеньне", надрукаваных у рубрыцы "З пасьмяротных твораў Алеся Гаруна". Усё гэта было зьмешчана ў сувязі із сьмерцяй А. Гаруна ў 1920 г. Але спачатку — колькі слоў пра сам часапіс "Вольны Сьцяг".

У гісторыі беларускага друку вядомыя два пэрыядычныя выданьні пад гэтайсамай назвай: газэта радыкальнага кірунку ў Заходняй Беларусі — орган Беларускай Рэвалюцыйнай Арганізацыі, якая выдавалася ў Вільні з 5-га чырвеня да 25-га кастрычніка 1923 году й літаратурна-мастацкі й навуковы часапіс "Вольны Сьцяг", які выдаваў у Менску прыгаданы Камісарыят Народнае Асьветы Беларусі ад 1-га верасьня 1920 да 1-га студзеня 1922 году. Пра *газэту* "Вольны Сьцяг", якая з прычыны прасьледаваньняў польскімі ўладамі выходзіла пад рознымі назовамі — "Наш Сьцяг", "Сьцяг", Падняты Сьцяг", "Сьцяг Народа" й "Вольны Сьцяг", інфармацыю можна знайсьці ў 3-м томе ўнівэрсальнай "Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі", які выйшаў з друку ў 1971 годзе.

Аднак нельга сказаць тое самае пра *часопіс* "Вольны Сьцяг", выдаваны Наркаматам Асьветы БССР. Зь "незразумелых", на першы погляд, прычынаў, ані ў 12-томнай "Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі", ані ў 3-м томе Кароткай Энцыкляпэдыі "Беларускай ССР", выдадзеным у 1980 г. і ў якім гаворыцца пра друк Беларусі, пра часопіс "Вольны Сьцяг" ніякай інфармацыі няма. Каб даведацца пра яго існаваньне, беларускі чытач павінен быў чакаць аж 13 год ад выхаду 3-га тому БелСЭ да зьяўленьня ў 1984 г. 1-га тому "Энцыкляпэдыі Літаратуры і Мастацтва Беларусі", на 676 бачыне якога зьмешчаны цікавы й зьместоўны артыкул пра яго вядомага беларускага савецкага дасьледніка літаратуры Арсеня Ліса.

Адтуль чытач можа даведацца, што на бачынах часопісу "Вольны Сьцяг" упяршыню быў апублікаваны шэраг твораў, якія сталі здабыткамі беларускай культуры, у тым ліку разьдзелы з паэмаў Якуба Коласа "Новая Зямля" й "Сымон Музыка", з аповесьці "У палескай глушы"; драматычныя творы Леапольда Родзевіча "Пакрыўджаныя" і "Зьбянтэжаны Саўка", Максіма Гарэцкага "Вучыцель Мутэрка", пераклады Янкі Купалы "Слова аб палку Ігаравым" пад назовам "Песьня аб паходзе Ігара" і сцэнічнай аповесьці Жулаўскага "Эрос і Псыха".

"Зь вершамі, — адзначае Арсень Ліс — у часопісе выступалі Янка Купала, Міхась Чарот, Зьмітрок Бядуля, Міхайла Грамыка, Янка Журба, П. Каравайчык, М. Ганчарык (псэўданім Я. Сявец), Н. Панамарова; з апавяданьнямі — Зьмітрок Бядуля, Максім Гарэцкі, Цішка Гартны, Міхась Чарот, Родзевіч. Зь літаратурнай спадчыны, — працягвае аўтар, — былі зьмешчаныя творы Каруся Каганца." У часопісе "Вольны Сьцяг", паводля Арсеня Ліса, былі зьмешчаныя артыкулы пра творчасьць Якуба Коласа, Міхала Піятуховіча, Янкі Журбы, пра народна-паэтычную творчасьць, беларускі тэатр, музыку Яўхіма Карскага, Зьмітрака Бядулі, Каравайчыка, А. Раманоўскага, Я. Сьвятляка, рэцэнзіі на кнігі зь беларусаведы Міколы Байкова й Гаўрылы Гарэцкага.

Ліста супрацоўнікаў часопісу "Вольны Сьцяг", якую падае ў 1-м томе ЭЛІМБу Арсень Ліс, бязумоўна, няпоўная, некамплетная. Прапушчаныя імёны прынамся трох галоўных супрацоўнікаў часопісу — вядомага беларускага драматурга й тэатральнага дзеяча Францішка Аляхновіча й выдатнага нашага гісторыка, грамадзкага й палітычнага дзеяча прафэсара Усевалада Ігнатоўскага ды выдатнага беларускага моваведа й палітычнага дзеяча Язэпа Лёсіка. Першы зь іх, Францішак Аляхновіч, загінуў у Вільні ў пачатку сакавіка 1944 г. ад кулі агента НКВД, Усевалад Ігнатоўскі пакончыў сваё жыцьцё самагубствам 4-га лютага 1931 году ў знак пратэсту супраць гвалту савецкіх уладаў і ў абароне незаплямленасьці беларускае нацыянальнае справы, а Язэп Лёсік у часе сталінскага тэрору быў, праўдападобна, закатаваны ў 1940 годзе, як "вораг народу" ў падвалах НКВД.

У артыкуле Арсеня Ліса пра часопіс "Вольны Сьцяг" не згадваецца таксама імя Алеся Гаруна, пра якога, як мы адзначылі, у 3-м нумары ад 5-га травеня 1921 году, зьмешчаныя адмысловыя матар'ялы і здымак Алеся Гаруна зь Язэпам Лёсікам, зроблены на выгнаньні ў Сібіры ў 1914 годзе.

Зразумела, пропускі гэтыя не выпадковыя. І ў гэтым ня віна Арсеня Ліса, вядомага, як сумленнага дасьледніка беларускага фальклёру, творчасьці й

**ВОЛЬНЫ СЬЦЯГ**

Год выд. II.
№ 1 (3).
15 Мая
1921 году.

БЕЛАРУСКАЯ ЛІТЭРАТУРНА-МАСТАЦКАЯ І ПОЛІТЫЧНА-ГРАМАДЗЯНСКАЯ ЧАСОПІСЬ·

*ВЫХОДЗІЦЬ У МЕНСКУ РАЗ У МЕСЯЦ.*



1) **Я. Лесік** і 2) **Алесь Гарун** зьнятыя у Сыбіры па пасяленьні, у Балайбо Якуцкай вобласьці, у 1914 г. Там А. Гарун служыў дазорцам (вартаўнічым) на залатых капальнях Ленскага Залатапрамысловага Т-ва, адкуль у 1917 г. у жніўні вярнуўся у Менск, на бацькаўшчыну.

дзейнасьці беларускіх грамадзкіх і музычных дзеячоў і мастакоў. Віна тут поўнасьцю партыйнае савецкае цэнзуры, для якое Францішак Аляховіч наагул ня існуе, Усевалад Ігнатоўскі — нацыянал-ухіліст, Язэп Лёсік і Алесь Гарун — буржуазныя нацыяналісты. Зусім магчыма, што якраз дзеля іх і ня было нічога зьмешчана пра часопіс "Вольны Сьцяг" ані ў унівэрсальнай "Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі", ані ў Кароткай Энцыкляпэдыі "Беларускай ССР", якая, як ведама, ёсьць біяграфічным даведнікам пра жыцьцё й дзейнасьць людзей, зьвязаных зь Беларусяй, а імя Алеся Гаруна, якое ў іх фігуруе, выкінутае з 2-га тому "Энцыкляпэдыі Літаратуры і Мастацтва Беларусі".

Вестка пра сьмерць Алеся Гаруна дайшла ў тагачасную БССР з пэўным спазьненьнем. Дакладная дата й месца сьмерці таксама ня былі вядомыя. Уважалася, што ён памёр увосень 20-га году ў Швайцарыі. Прынамся яно так выглядае з пасьмяротнага артыкулу Зьмітрака Бядулі, для якога Алесь Гарун быў "адным з найвыдатнейшых нашых паэтаў" і "песьняром". Але дамо слова самому аўтару артыкулу. У 3-м нумары часопісу "Вольны Сьцяг" Зьмітрок Бядуля пісаў:

"Нейкі лёс няшчасьця вісіць над беларускімі паэтамі і пісьменьнікамі. Шмат з нашых выдатных сіл, маладых і таленавітых (у артыкуле — "таланных") пайшлі ў нябыт за час вайны і рэвалюцыі. Цэлы рад магіканаў беларускага адраджэньня, з эпохі "Нашае Нівы", без пары перайшоў у царства вечнасьці, як, напрыклад, Максім Багдановіч, Цётка, Ігнат Буйніцкі, Каганец, Петрашкевіч, Лявон Гмырак, Іван Луцкевіч і іншыя.

Гэтыя беларускія літаратары ў большай часьці загінулі ад сухот, як ахвяры беднаты і кепскіх варункаў жыцьця. Яшчэ магілкі іхнія такія сьвежыя. Яшчэ раны ў нас не загаіліся ад гэтых вялікіх страт, яшчэ іх недахват чуецца ў нас на кожным кроку, — ажна — кажа Зьмітрок Бядуля, — дайшла да нас новая сумная вестка — памёр у Швайцарыі ад сухот адзін з выдатнейшых нашых паэтаў Алесь Гарун (Аляксандар Прушынскі).

Аляксандар Прушынскі, — працягвае аўтар, — радзіўся ў 1887 годзе ў Менску. Бацькі яго былі бедныя чарнарабочыя. І вось з самага маленства Прушынскаму прыходзілася цярпець гора і недахваты. Вучыўся будучы пясьняр у пачатковай школе, але доўга вучыцца сыну гарапашных людзей было немагчыма і, каб здабыць сабе кавалак хлеба, ён пайшоў у сталяры.

Але Муза беларускіх лясоў і балот, якая пры раджэньні хлопчыка налажыла яму на чало паэтыцкі вянок, не давала яму супакою з самых малых гадоў — усё нашэптывала яму на вуха свае вабныя чароўныя казкі:

"Аглядайся на прыгожы Божы сьвет... Вучыся. Скарбы багатыя захаваны ў сэрцы тваім..."

І вось, — кажа Зьмітрок Бядуля, — маленькі хлопчык, як галодны, рваўся да кніг і чытаў іх без разбору, якія толькі пападаліся яму ў рукі. Гэтакім чынам будучы пясьняр разьвіваўся вельмі рана, ня гледзячы на самыя жудасныя абставіны голаду й холаду.

Рэвалюцыя 1905 году застала яго ўжо ў партыі эсэраў, у якую ўступіў у Менску ў 1904 годзе, і тады ён пачаў цікавіцца сацыяльна-палітычным і нацыя нальным рухам. Тады ён зрабіўся гарачым заступнікам сялян і рабочых. У адплату за сваю рэвалюцыйную працу меў ён царскую турму, а потым вечную ссылку ў Сібір. Там пясьняр пражыў аж да рэвалюцыі 1917 году.

Сацыялістычныя вершы Алесь Гарун пачаў пісаць яшчэ ў Менску, а потым у вастрозе. Аб сваей паэтычнай творчасьці сталяр-паэт так кажа:

Часамі праца ўдзень кіпіць, —
Цярплю і я прыгон —
Аж косьць аб косьць ў плячу рыпіць...
Пачуеш ў сэрцы звон...
Ухопіш зык, за ім — другі,
За тымі больш ідуць.
Зьліюцца ў шых даўгі-даўгі
І цэлы дзень гудуць.
Загасьне дзень, іду дамоў,
Кладуся спаць, і ўноч
Цякуць радкі зьвінючых слоў
І сон адходзіць проч.
Тагды пішу..."

Меў і ён, — кажа аўтар, — гаротную долю большасьці беларускіх паэтаў: заняты цэлы дзень мазольнай працай, ён краў час для сваей творчасьці ў сну й адпачынку й пісаў урыўкамі. І як большасьць беларускіх паэтаў, — пісаў у 1921 годзе Зьмітрок Бядуля, — ён за кароткія хвілі сваей творчасьці плаціў цэлымі гадамі жыцьця й зрабіўся ахвярай сухотаў. Але ці хто колечы зь беларускіх паэтаў эры адраджэньня лічыўся з сваім жыцьцём і сваім дабрабытам? — пытае Зьмітрок Бядуля і адказвае: — ня лічыўся з гэтым і нябожчык Алесь Гарун. І ня гледзячы на цяжкія варункі жыцьця ў Сібіры, ён з самага пачатку друкаваньня газэты "Наша Ніва" ў Вільні даваў туды свае вершы, у

якіх пышыць агонь закаханьня да няшчаснай, далёкай бацькаўшчыны, да пакрыўджанага нявольніка-мужыка.

Ужо пасьля рэвалюцыі 1917 году ў Менску ў 1918 годзе выйшаў яго зборнік вершаў "Матчын дар" (думы й песьні, пісаныя ад 1907 да 1914 году). Потым у 1920 годзе выйшаў яго другі зборнік драматычных твораў для дзяцей: "Жывыя казкі".

Уся паэзія Гаруна, — паводля Зьмітрака Бядулі, — пранікнутая кволай і далікатнай лірыкай, сумам-тугой па далёкай бацькаўшчыне. Паэт марыць аб бацькаўшчыне:

Як надарыцца мінута,
Што ад працы адарвуся,
І жыцьцёвая атрута
Не пячэ і прахаплюся,
Ды цябе, мой Родны Краю,
Шчырай думкай аблятаю"

Або:

Часам я ўночы сны дзіўныя бачу:
Роіцца нейкі нязьведаны край,
Повен то шчасьця, то жаласьці, плачу,
То зло-хмурлівы, то сьветлы, як рай;
Бачу вялікія стэпы з-над Нёмна;
Туліць у сьлёзах матуля сынка;
Сьцелецца пушча глухая і цёмна;
Косьці з магілы глядзяць бедака"...

Абразкі яго засмучаныя, акропленыя болем змучанай, пакутнай душы. Гэтакі тон яго досыць часта паўтараецца. І ня дзіва, бо Сібір, няволя гняце яго душу й падламывае крылы:

На чужой староначцы
Заняпаў душой
І згубіў здароў'ейка,
І згубіў спакой..."

Але ў гэтым смутку, — пісаў Зьмітрок Бядуля ў 3-м нумары часопісу "Вольны Сьцяг" з 15-га травеня 1921 году, — чуецца часам магутнасьць і размах. Клічам надзвычайнай сілы і пекнай формай аддаюць яго песьні тады, калі ён гаворыць аб адраджэньні краю, аб роднай мове:

"Гэй, ты маці, — родна мова,
Гэй, ты, звон вялікі слова,
Звон магучы
Звон бліскучы,
З срэбра літы,
З злота біты,
Загрымі ты,
Загрымі!"

Ня гледзячы аднак на зьняволенае жыцьцё Гаруна ў Сібіры (паэт да 1917 году быў на ссылцы ў Сібіры), на сталыя мары-лятуценьні аб сваёй далёкай бацькаўшчыне-Беларусі, Алесь Гарун часта ў забыцьці захопліваецца акружаючай яго прыродай суровай Сібіры, дзе, як кажа Зьмітрок Бядуля, самабытнае хараство дыша шырынёй і велічай. Паэт у палоне тайгі й сьнягоў. Чуецца ў яго магутнасьць, рытмічныя акорды чароўнай музыкі й багатая форма:

Сьнягі, ляды,
Абрус жуды,
На заўсягды,
На вечны час
Ляглі.

Гара, скала
Наўкол лягла
І узрасла
Па ўскрайны пас
Зямлі...

Але, — працягвае Бядуля, — гэткія хвілі здаровага шчасьця мала чуюцца ў яго паэзіі. Пяўцом сібірскіх абшарынаў паэт зрабіцца ня мог. У той час, калі расейскія паэты Пушкін і Лермантаў, бывшы ў выгнаньні на Каўказе, яны там абшырна і добра жылі: ім здабываць сабе куска хлеба ня трэба было. І ў іх гэтае прабываньне на Каўказе было прыемнай экскурсіяй, так што ім лёгка было аддавацца чарам каўказкай прыроды і тварыць свае каўказкія паэмы, песьні і легэнды.

Ня так жылося Гаруну ў Сібіры. Апрача таго ён так быў захоплены беларускім адраджэньнем, што мог думаць толькі аб роднай зямельцы. Гэта, — кажа Бядуля, — у яго даходзіла да хваравітай упартасьці яшчэ дзеля таго, што ён быў пэўны ў тым, што ніколі ня вернецца зь сібірскіх сьнягоў у родны край. Ад вялікай роспачы, з прычын сваей жыцьцёвай трагэдыі, ён дайшоў у сваей творчасьці да мэсіянства, да чулай рамантыкі роднай зямлі, да народніцтва васьмі дзесятнікаў. Ён пачынае апрацоўваць беларускія народныя казкі й легэнды ("Канец Паўлючонка", "Шчасьце Мацея" і іншыя).

Вельмі ўдала, на думку Бядулі, выйшла ў Алеся Гаруна засьцянковая аповесьць "Варажба", дзе відаць мастацкі стыль і вытрываласьць тону. Малюнак выйшаў выразны й тыпічны. Апрача вершаў, ёсьць у Гаруна спробы добрай прозы ("Пеэро і Коломбіна" і іншыя). Ён меў вялікі нахіл да апавяданьняў, але ўсё гаварыў, што яму часу няма пісаць.

І праўда, як толькі ён прыехаў зь Сібіры ў Менск, дык на яго навалілі шмат грамадзкай і палітычнай працы, якая, можна сказаць, і даканала яго зусім. Ужо апошні год, — піша Зьмітрок Бядуля, — ён бадай ня выходзіў з сваей кватэры. Яго "Жывыя казкі" яму прыходзілася пісаць лежачы ў пасьцелі, бо сядзець яму было цяжка. Блізка стоячым да яго беларускім дзеячам чуць удалося ўгаварыць паэта кінуць працу й выехаць на лекі за граніцу.

І вось, — канчае Бядуля свой артыкул, — няшчасны беларускі паэт памёр на чужыне ўвосень 1920 году. Гэтак скончылася сумная аповесьць аднаго з найлепшых беларускіх паэтаў, які змагаўся ўсё сваё жыцьцё за лепшую долю, за волю роднай зямлі. І новай старонкай узбагацілася жалобная летапісь беларускіх маладых адраджэнцаў, якія без пары пайшлі ў нябыт. Але той фундамант, які яны палажылі для адбудовы краю, ніколі не загіне".

На сумную вестку пра заўчасную сьмерць Гаруна, у тым-жа самым 3-м нумары часопісу "Вольны Сьцяг" адгукнуліся беларускія паэты Міхась Чарот і Серга. Вершы іхныя былі зьмешчаныя ў рубрыцы "Памяці Алеся Гаруна": верш Чарота пад загалоўкам "Жывыя акорды", а верш Сергі п. заг. "Ахвярую Алесю Гаруну". Вось яны:

"ЖЫВЫЯ АКОРДЫ"

Спакойна сьпі, пясьняр, далёка на чужыне...
На што пакінуў край, які быў сэрцу міл?
Ці можа ты хацеў, каб на палёх краіны
Стаяла менш крыжоў, і менш было магіл?

Кахаў ты родны край, дзе цемра, зьдзек пануе;
З народам плакаў ты, як лепшы яго сын...
Цяпер ты замаўчаў... А ўсё-ж акорды чуе
Гаротны люд... Ня змоўк іх дзіўны гымн.

Ў акордах чуюцца ўсё сумныя напевы;
Адбітак тваіх дум — ў іх можна угадаць,
Шмат жальбы ў іх чуваць, і радасьці, і гневу,
І звоны ланцугоў нявольніка чуваць.

Ты сьпевам разбудзіў народ свой на прадвесьні,
Якому на аўтар свой дыямэнт прынёс...
Яшчэ акорд ня змоўк тваей прыгожай песьні,
Хось струны абарваў жыцьця паганы лёс.

Лье сьлёзы па табе народ і гай, і поле,
І вераць у прамень, які ты ўсім паслаў...
Акорды будуць жыць — твой дар, паэт — на волі,
А зь імі будзе жыць, хто плакаў і стагнаў...

Другі паэт, Серга, у сваім вершы "Ахвярую Алесю Гаруну", напісаным 21-га студзеня 1921 году, у часе польскай акупацыі Менску, заяўляе:

У чужацкі край, дзе лёд і сьнег,
За волю бацькаўшчыны мілай
На ганьбу цяжкую і зьдзек
Я быў пасланы царскай сілай.
І хоць тады ў путох сядзеў,
Душою ў Беларусь ляцеў.

Там на чужыне, сярод гор,
Дзе крушні шэрыя ляжалі,
Усё наша вёска, родны бор
Перад вачмі маймі стаялі.
Прыжыць да сэрца-б іх хацеў,
Ды я ня мог, — у турме сядзеў.

Прайшлі гады... Я зноў прыйшоў
Зь Сібіру ў родную краіну;
Шукаў тут волі — не знайшоў,
Даўно і сьлед яе загінуў.
І ў Беларусі гаспадар
Цяпер: турма, ланцуг, жандар.

*Серга*

Як мы ўжо адзначылі ў пачатку, апрача артыкулу-нэкралёгу Зьмітрака Бядулі й зацытаваных вершаў Міхася Чарота й Сергі, у 3-м нумары часопісу "Вольны Сьцяг" былі зьмешчаныя таксама тры творы Алеся Гаруна, напісаныя ім на выгнаньні й на бацькаўшчыне. Гэта — верш "Бажаньне", пад якім стаіць месца й дата напісаньня: Барка на Лене. 1914 год; "Песьня капачоў" і "Відзеньне". Гэты апошні, з падзагалоўкам "З гадоў няволі", быў напісаны Гаруном восеньню 1918 году. Вершы гэтыя ўвайшлі ў кнігу "Матчын дар і іншыя творы" Алеся Гаруна, выдадзеную Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку ў 1962 годзе, куды мы і адсылаем нашых чытачоў.

*Язэп Барэйка*

## ЛЯ ВЫТОКАЎ ЛЕНІНСКАЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЕ ПАЛІТЫКІ

*(Заканчэньне з папярэдняга нумару)*

Гаворачы-ж простай людзкой мовай, Ленін адкідае самавызначэньне на справе, бо яно пярэчыць таму таталітарнаму ладу, які ён хоча стварыць на месца царызму ў Расеі ад імя марксізму й пад назовам "сацыялізм". Аднак у гэтым пытаньні Ленін бясцырымонна зьдзекуецца ня толькі над дэмакратыяй, але й над сваімі веранастаўнікамі. Якраз сам Ленін цытуе ліст Энгельса Каўцкаму ў пытаньні пра тое, якім павінна быць стаўленьне пераможнага сацыялізму да дамаганьня самавызначэньня з боку прыгнечаных нацыяў.Энгельс пісаў: "Пераможны пралетарыят ня можа ніякаму чужому народу накідаць ніякага ашчасьліўліваньня , не падрываючы гэтым свае ўласнае перамогі. Зразумела, гэтым ня выключаюцца абаронныя войны рознага роду".

Як актуальна гучаць гэтыя словы Энгельса якраз сяньня, калі Крэмль праводзіць у Афганістане варварскі генацыд, намагаючыся на свой лад "ашчасьлівіць" афганскі народ! У сьвятле праведзенага аналізу ленінскай канцэпцыі аб праве народаў на самавызначэньне, Ленін напэўна апрабаваў-бы цяперашнюю каляніяльную вайну савецкага сацыялістычнага супэрімпэрыялізму ў Афганістане.

Зразумела, мэтай Леніна ў Расеі была не дэмакратычная, а "пралетарская" рэвалюцыя, устанаўленьне ня дэмакратыі, а дыктатуры адной партыі пад назовам "дыктатура пралетарыяту". Для шматнацыянальнай дзяржавы, як тагачасная Расея, гэта азначала, што будучая бальшавіцкая форма кіраваньня, якім-бы імем яна сябе не называла, будзе дыктатурай аднаго імпэрскага цэнтру, а ня фэдэрацыяй сувэрэнных і раўнапраўных нацыяў.

*вс — уц*

## ПАМЁР АЎГЕН КАХАНОЎСКІ

**Сёлета 27-га травеня памёр у Кліўлендзе выдатны беларускі грамадзкі й палітычны дзеяч, гісторык, пісьменьнік, пэдагог, журналіст Аўген Каханоўскі [Калубовіч]. Было яму дзесь каля 75 гадоў. Жонцы й радні выказваем нашае глыбокае спачуваньне. У іншым месцы згадваем кнігу Нябожчыка, якая нядаўна выйшла, зь якой чытач можа даведацца які выдатны быў гэты Беларус.**

# *Г А Л О С Н А С Ь Ц Ь...*

Вселенную, знайте, спасет
Наш варварский, русский Восток.
*Ігар Северанін*

Нет, теперь всякому видно — не сталинские времена, дышать легче. Вот только одна беда: наверху руководители сменились, а внизу те же самые живоглоты сидят.

*Л. Владимиров*, "Россия без прикрас..."

*Галоснасьць, галоснасьць...*
*Паслухаеш, — аж у вушах*
*млоснасьць.*
*Самі, ад Маркса, людагубы*
*не перайначыліся,*
*адно пановаму*
*зьвягаць-ілгаць*
*насабачыліся.*
*Марксізм пановаму:*
*гарлапанаў-людагубаў*
*глоткі з абноваю!*
*Ужо некалі ўсе праблемы*
*жыцьця "рашылі", —*
*па дарозе да камунізму*
*волю й сьвятло душылі!*
*Адно чарнелі ў ГУЛАГу*
*замардаваных косьці,*
*і ліпелі ў чэргах*
*у дрыготкіх руках*
*авоські!*
*а потым —*
*"сонцам" канстытуцыі*
*забясьпечылі:*
*усе сьвятасьці*
*й Бога зьнявечылі!*
*Нафашысьцілі*
*налева й направа,*
*а халуі й забойцы*
*гарлапанілі "брава"!*
*Каб нікчэмная*
*мізэрная*
*ідэя не памёрла, —*
*схапілі век дваццаты*
*за горла.*
*Галоснасьць, галоснасьць*
*мае зьнішчыць*
*поснасьць...*
*А чарнобылі навокал*
*пагражаюць,*
*лік нявінных*
*атручаных*
*ахвяраў*
*памнажаюць.*
*Тарахціце, пхніце*
*галоснасьці дышла*
*будзе падобны пшык,*
*як з усяго*
*ранейшага*
*у імпэрыі Гулагу*
*выйшла.*
*Адыйдзе ў нябыт*
*забойцаў і*
*гарлапанаў племя,*
*праклянуць вас усе*
*наступныя пакаленьні!*

К. Акула

---



Сёлета 21-га травеня нашаму Высокапачэснаму Архіяпіскапу Мікалаю, Першаму Ярарху Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы споўнілася 70 гадоў жыцьця.

За блізу 35 гадоў сьвятарскай і архіпастырскай службы ў БАПЦ, сваей адданасьцю, пільнасьцю, вялікай верай у Ўсемагутнага й ахвярнасьцю ў працы для Беларускага Народу наш Высокадастойны Архіпастыр здабыў вялікую пашану ў сваіх вернікаў і наагул суродзічаў Беларусаў.

Гэтта жадаем Высокапачэснаму Архіяпіскапу Мікалаю добрага здароўя, сілаў да працы й доўгіх-доўгіх гадоў руплівага ў працы й плённага жыцьця!

## А ТАМ ВАЙНА ТРЫВАЕ

Агенцыя Юнайтэд Прэс Інтэрнашанал паведамляе зь Ню Дэлі што 6-га травеня сёлета савецкія самалёты наляцелі й збамбілі свой мілітарны афганскі. гарнізон, забілі звыш 100 жаўнераў. Яны, бачыце, памыліліся, думалі што бамбяць Мушахэдзінаў, змагароў за свабоду Афганістану.

А на мяжы з Пакістанам Мушахэдзіны забілі 50 і ўзялі ў палон 22 чырвоных. Яны-ж ужо двойчы пераходзілі мяжу й атакавалі пункты на савецкай тэрыторыі. Такім чынам вайна прадаўжаецца...

..........................................

## *ВЫЙШЛІ КНІЖКІ*

**А.Калубовіч. На крыжовай дарозе.** Успаміны. Клыўлэнд — 1986. 252 бач. Выд. аўтара.

Калубовічавы ўспаміны друкаваліся па часопісах, а цяпер выйшлі асобнай кніжкай. Аўтар выдатна апісаў свой "крыжовы" шлях ад Бабчына, ля Хойнікаў, на паўночны Урал, а пасьля Сібір, дзе сотні тысячаў беларускай перадавой нацыянальнай інтэлігенцыі й сялян маскалі вывозілі зь Беларусі на будову ці то прамысловых "гігантау", ці будову дарогаў і чыгунак, высечку лясоў, катаржныя працы ў капальнях...

Кніга цэнная тым, што аўтар добра папрацаваў і сабраў немалы сьпіс бальшавікамі зьнішчаных нацыянальных правадыроў і асьветнікаў, працоўнай інтэлігенцыі. Апісаньні сваей "дарогі" аўтар перадае безь сьлязьлівых эмоцыяў, чым якраз выклікае глыбокі ўзрух у пачуцьцях чытача. Кажнаму раім кнігу купіць і прачытаць.

**Александр Гидони. Эмигрантские розы.** Сборник стихов, Торонто — Нью Иорк. Выд. аўтара, 144 б.

Нашым чытачом ведамы расейскі паэт, крытык і пісьменьнік Аляксандар Гідоні выдаў новую кнігу вершаў і паэмаў п. заг. "Эмігранцкія розы". Як тэматыкай так і абыймай, творы прадстаўляюць разнавіднасьць кветак шырокага паэтычнага лугу. Гэтта шмат палітычнай і грамадзка-накіраванай сатыры, — а паэт выдатны майстар яе, — значыцца розы тыя бываюць шыпшыны з калючкамі.

Гідоні — адзін з найбольш узнагароджаных музамі й працавітых расейскіх паэтаў на эміграцыі, чытаеш яго "ўзахлёб". Раім аматарам выдатнай паэзіі купляць кнігу. Цана 10 дал. Замаўляць у "Зважай".

**НЯ НАША ВІНА** Гэтта перасьцерагаем чытачоў, што калі гэты нумар часапісу прыйдзе ў Вашу хату месяц ці два пазьней, дык ведайце, што страйкуюць нашы (канадыйскія) паштовыя працаўнікі, якія ў часе перад страйкам ужо мелі 15 даляраў і больш платы на гадзіну... Зь якіх прычынаў страйкуюць, гэта ўжо іншая тэма...

---

**Нашы спачуваньні**

**выказваем М. Яськевічу,ягоным дзецям і радні ў Манчэстары, з прычыны сьмерці, 23-га лютага сёлета, жонкі й маткі.**

---

**Адыйшоў яшчэ адзін** Летась адыйшоў ад нас Мікола Калясьнікевіч...

Ён памёр у красавіку ў Крэзо, у Францыі, у веку перасягнуўшы 60 гадоў. Жыў у адзіноцтве, а мы навет ня ведаем яго дамашняга (зь Беларусі) адрасу.

Мікола Калясьнікевіч паходзіў (праўдападобна) зь вёскі Ракавічы пад Нясьвіжам. Вучыўся ў Нясьвіскай настаўніцкай сэмінарыі, пазьней у школе Камандзераў Беларускай Краёвай Абароны ў Менску, прайшоў шлях вайною празь Нямеччыну ды пасьля пасяліўся ў Францыі.

Гэтую вестку зьмяшчаем з надзеяй, што хтось з нашых чытачоў перакажа яе сваяком Нябожчыка, якім выражаем нашае сардэчнае спачуваньне

А Табе, Сябра , з чужынцамі "раськіданага гнязда", зь якім вялі нас ваенныя дарогі й бездарожжы, **Вечная Памяць!**

*"Зважай"*

||||||||||||||||||||||||||||||||||||||||||||

**ФОНД "ЗВАЖАЙ"**

Ад канца лютага да канца травеня сёлета на "Зважай" атрымана: М. Махнач - 40.50 дал., М. Буцько - 10.00, П. Конюх - 25.00, Ю. Андрусышына - 13.00, М. Скабей - 8.50, К. Акула (з продажы) - 12.00, Я. Баран - 5.00, К. Калоша - 26.40, а. М. Страпко - 26.40, А. Стрэчань - 26.40.

*Разам — 193 дал. 20 ц. Усім вялікае дзякуй!*

---




**Магутнасьць Чырвонай арміі**